# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 14 (1716) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 2 КРАСАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.






*На сцэне „Крыніцы“. Злева: Алег Дыман, Валянцін Голубеў, Мар'яна Калеснікава і Міхась Жаўняровіч.*

Бадай у традыцыю ўвойдзе ўдзел калектываў з Беларусі ў гала-канцэртах лаўрэатаў конкурсаў на беларускую песню. Так было ў мінулым годзе (тады прыехалі „Лявоны“ з Воранава), так было і зараз. Сёлета завіталі да нас, на Беласточчыну „Крыніцы“ з Ашмян, што на Гродзеншчыне.

Ашмянскі народны ансамбль песні і танца „Крыніцы“ раённага Дома культуры існуе ад 1974 года, а ўжо ў 1979 г. прысвоена яму званне народнага. Увесь калектыў вялікі, налічвае 65 асоб і складаецца з мяшанага хору, танцавальнай і аркестравай груп. Да нас прыехала частка ансамбля — жаночая вакальная група, якой кіруе Мар'яна Калеснікава, і чатырохасабовая капэла ў складзе: Валянцін Голубеў — баян, Тамара Гаеўская — цымбалы, Алег Дыман — скрыпка і Міхась Жаўняровіч — кантрабас.

Ашмянскія артысты не абмежаваліся ўдзелам у канцэртах лаўрэатаў агляду „Беларуская песня '89“. На працягу шасці працавітых дзён іх пабыўкі на Беласточчыне далі яны дзевяць канцэртаў у Беластоку, Орлі, Бельску-Падляшскім і Гарадку. Усюды іх выступленні ўспрымаліся энтузіястычна.

Мне давялося пазнаёміцца з майстэрствам спевакоў і музыкантаў з „Крыніцы“ падчас канцэрта лаўрэатаў у Беластоцкай філармоніі. Пасля выступленняў нашых выканаўцаў на эстраду ўвайшло шаснаццаць стройных дзяўчат і народная капэла. На пачатку прагучэла некалькі лірычных беларускіх песень, а затым сваё ўменне выявілі музыканты. У іх віртуозным выкананні гледачы пачулі полькі: „весялуху“, „таптуху“, „ашмянскую на тры пальцы“ і „ганаровы мазурэк“. Далей выконваліся жартоўныя песні, а мяркуючы па працяглых воплесках і энтузіястычных воклічах, найбольш спадабаліся: „Чабарок“ у выкананні Мар'яны Калеснікавай і Марыны Жаўняровіч, а таксама дзве песні, якія не толькі спяваў, але і інсцэніраваў, адначасова іграючы на скрыпцы, Алег Дыман. Авацыйна былі прыняты „Варэнікі“, спяваныя разам з Людмілай Людкоўскай і „Як я служыў у пана“, выкананую ў сямейным дуэце з Мар'янай Калеснікавай (яны сужонства).

„Крыніцы“ закончылі сваё выступленне ў філармоніі адспяваннем у зводным хоры, з нашымі лаўрэатамі, песні „Чаму ж нам не пець“ і гімна беластоцкіх беларусаў „Люблю наш край“. Ашмянскія госці былі прыемна здзіўлены цёплай і сардэчнай атмасферай, жывым рэагаваннем публікі, выкліканнем на „біс“. Гэта доказ не толькі высокага мастацкага ўзроўню калектыву, але і таго, што расце зацікаўленне нашай грамадскасці ўсім родным і таму патрэбен нам, беларусам па абодвух баках мяжы, шырэйшы абмен ва ўсіх дзялянках культурнай дзейнасці.

**В. Луба**

**Фота С. Грыняўіцкага**

## МУЗЕЙ БУДУЕЦЦА!

Многія ахвяравальнікі на пабудову Музея беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы просяць шырэйшай інфармацыі аб будаўнічых працах. Гэтым разам просьбу магу выканаць ад імя рэвізійнай камісіі, якая 15.III.1989 г. правяла чарговы кантроль.

Спрыяльнае надвор'е дазволіла працягваць будаўнічыя работы ад студзеня. Зараз відаць ужо выразныя контуры сцен першага паверха будынка „Б“. Заканчэнне яго будовы прадбачваецца на чэрвень бягучага года.

Паралельна вядуцца канчатковыя дробныя працы ў будынку „А“, які праз месяц будзе гатовы да загаспадарання. Выканаўцы гэтай інвестыцыі ставяць цвёрдыя фінансавыя ўмовы, але працуюць добрасумленна. Агульная вартасць усёй пабудовы складае ўжо каля 46 млн. злотых. А грошы? Дагэтуль членскія складчыны, індывідуальныя ахвяры грамадзян нашай краіны і грамадскія пачыны склалі каля 16 млн. злотых, а дзяржаўныя датацыі і ўплаты ад прадпрыемстваў — 36 млн. злотых. З фінансавай справаздачы камітэта вынікае, што балансавыя сумы да 31.XII. 1988 г. дасягнулі 51.927 тыс. злотых. А гэта значыць, што камітэт мае зараз на рахунку ўсяго каля 6 млн. злотых, 10.532 долары ЗША і 568 рублёў. Квартальныя патрэбы акрэсліваюцца на каля 10 млн. злотых. Закупленыя раней матэрыялы ацэньваюцца на каля 4 млн. злотых.

Вельмі цяжка праходзіць збор грошай. На працягу ўсяго 1988 г. лік звычайных членаў дайшоў усяго да 249 асоб, г.зн. узрос на 41 новага члена. Членскія складчыны ў тэрміне аплаціла каля паловы. Астатнім у лютым г.г. праўленне камітэта пабудовы выслала пісьмовыя напамненні і ўжо ёсць пазітыўныя водгукі. Сорамна аб гэтым пісаць, тым больш, што задэкляраваная ў 1985 годзе складчына — 1200 зл. — мае сёння намнога ніжэйшую вартасць. Рэвізійная камісія лічыць, што ў адносінах да некаторых членаў, якія занядбоўваюць свае абавязкі ад некалькіх год, трэба прымяніць больш радыкальныя сродкі.

З прыемнасцю хочам адзначыць некалькі членаў і ахвярадаўцаў, якія ўнеслі найбольшыя

(Праця̆г на стар. 11)




Гэта ўжо трэці мой допіс у гэтым годзе. Толькі што атрымаў восьмы нумар „Нівы“. Прачытаў яго з найвялікшай цікавасцю. Знайшоў у ім шмат матэрыялаў, якіх нельга чытаць без хвалявання.

У „Чырвонай змене“ ад 15 снежня 1988 г. я прачытаў пра Янку Максімюка і яго пераклад „Уліса“ Дж. Джойса на беларускую мову. О, колькі было радасці ў мяне і маіх таварышаў. Раней я спрабаваў прачытаць „Уліса“ па-англійску, але такое чытанне — цяжкая праца. І вось — „Уліс“ на роднай мове. Мне вельмі хочацца атрымаць гэтую кнігу, але не ведаю, як гэта зрабіць. Паважаная рэдакцыя, можа вы маеце магчымасць дапамагчы мне ў гэтым?

**Віктар Корбут, інжынер, Мінск**

**Ад рэдакцыі.** Лістаў з пытаннямі пра „Уліса“ рэдакцыя атрымлівае шмат. Усім зацікаўленым справу раз'ясняе перакладчык.

У красавіку 1988 года я „апублікаваў“ у ксераграфічнай форме першую кнігу перакладу „Уліса“ на беларускую мову (у кнізе дзевяць раздзелаў (эпізодаў) арыгіналу). Выданне гэтае цяжка назваць нат сігнальным — усяго было выдадзена 10 (дзесяць) экземпляраў. Тры з іх трапілі ў БССР, у тым ліку адзін у рукі журналіста „Чырвонай змены“ Вітаўта Мартыненкі. Неўзабаве мяркую такім самым чынам апублікаваць другую кнігу, у якой будзе пяць далейшых эпізодаў, а недзе пад канец 1989 года або ў пачатку наступнага — апошнюю, трэцюю кнігу. Гэты „выдавецкі працэс“ ідзе даволі марудна, бо мне самому даводзіцца быць адначасова і рэдактарам, і выдаўцом, і спонсарам свайго перакладу. Прытым большасць часу з'ядаюць мне турботы аб хлебе надзённым, так што рыхтаваць гэтае выданне даводзіцца нейк „пры нагодзе“. А і граша трэба назапасіць, каб аплаціць кошт публікацыі. Дык вось, пакуль што, асабіста не магу адгукнуцца станоўча на шматлікія просьбы зацікаўленых беларускім „Улісам“. Наколькі мне вядома, перакладам зацікавілася рэдакцыя „Даляглядаў“ у Мінску. Магчыма, што нейкі фрагмент будзе апублікаваны ў гэтым выданні ў 1990 годзе.

Поўнае выданне, ужо не прыватнае, пакуль што знаходзіцца ў сферы пажаданняў. Зразумела, было б выдатна, калі б пераклад быў апублікаваны якраз у БССР (а не скажам, у Канадзе або ЗША), калі ён таго варты.

**Ян Максімюк**

**Супрацоўнікі „Нівы“ і Галоўнага праўлення БГКТ выказваюць сардэчнае спачуванне**

**ГАЛЕНЕ МЯЛЕШКА**

**з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці мужа.**

# НАРАЎЧАНСКІЯ СПРАВЫ

Будова Семяноўскага вадасховішча набліжаецца да канца. Непадалёк Бандароўскага мосту на Нарве збудавана плаціна, якая перагарадзіла рэчышча. Тут над Нарвай знесены з твару зямлі некалькі вёсак, і гэтая тэрыторыя будзе затоплена. Вадасховішча дастаўляць будзе Беластоку 17 мільёнаў кубічных метраў вады ў год.

На правым паўночным баку вадасховішча ў Міхалоўскай гміне за Бандарамі пабудаваны ўжо блокі, рыхтуюцца месцы для дамоў адпачынку.

З левага, паўднёвага боку паўстане шмат дач. Пляцы над іх у хуткім часе прадаваць будзе гмінная ўправа ў Нараўцы. Ужо паступіла некалькі соцень заяў аб продажы. Такім чынам цалкавіта змяняецца тут вясковы пейзаж.

* * *

А што змянілася, або змяняецца ў вёсках у Нараўчанскай гміне? Адказваючы на гэтае пытанне, трэба сказаць аб вялікай міграцыі сялян у гарады, найбольш у Гайнаўку і Беласток. У многіх вёсках (тут 23 салэтвы) асталося па некалькі гаспадароў. Напрыклад, у Гарадзіску асталося іх 3, у Лясной — 7. Толькі Ляўковы (як Новае, так і Старое) трымаюцца яшчэ нядрэнна. Ёсць там керамічная фабрыка, якая дае працу і заробак людзям.



*Мікалай Павільч — начальнік гміны, старшыня аддзела БГКТ у Нараўцы.*

Паўтара года таму назад, калі размаўляў я з начальнікам гміны ў Нараўцы Мікалаем Павільчам, ён сцвердзіў, што ўжо менш людзей уцякае з вёсак. У 1986 годзе насельніцтва гміны зменшылася на 129 чалавек у параўнанні з 1985 годам, а ў 1987 — на 103 асобы ў параўнанні з папярэднім годам.

Аднак жа, калі паўтара года таму назад у Нараўчанскай гміне было 1800 га дзяржаўнага фонду зямлі і 26 прац. гаспадароў у пенсійным узросце, дык цяпер ужо дзяржаўны фонд зямлі павялічыўся да 2158 га (ды яшчэ нядаўна гмінная ўправа прыняла за пенсіі 42 гаспадаркі), а паказчык сялян-пенсіянераў да 28 прац.

У Нараўчанскай гміне больш як 70 прац. зямельных угоддзяў належыць да пятай і шостай катэгорыі. Тут ураджай збожжа нізкі, у сярэднім 20 цэнтнераў з аднаго гектара, а бульбы — 160 цэтнераў. І таму гаспадару, які мае слабыя землі, даражэй прыходзяцца машыны, у параўнанні з гаспадаром на добрых землях. Напрыклад, за трактар (Урсус С-360) трэба заплаціць столькі, колькі селянін возьме за збожжа, сабранае з дзесяці гектараў ураджайнай глебы, або з дваццаці на слабых землях.

У такой сітуацыі ўлады паўночна-ўсходняга рэгіёну дамагаюцца дыферэнцыяцыі асноў

# ТЭАТР І ЖЫЦЦЁ

**„Ніва“:** — Зусім выпадкова і нечакана мы даведаліся пра гасцінныя выступленні Тэатра-студыі кінаакцёра з Мінска, якія адбыліся ў Драматычным тэатры ў Гдыні ад 20-га да 28-га лістапада 1988 года. Акцёры выступілі ў двух спектаклях. Мы размаўляем з рэжысёрамі спектакля „Фантазія на тэмы Гогаля“ **Аляксандрам Бяспалым** (які іграў ролю Гараднічага) і **Уладзімірам Грыцэўскім** (роль Ляпкіна-Цяпкіна). Адкуль вы ў Гдыні?

**Аляксандр Бяспалы:** — Гэта доўгая гісторыя. Неяк у Мінску быў рэжысёр Збігнеў Парэмба. Ён бачыў нашы спектаклі, нарадзілася думка пра супрацоўніцтва. І вось мы прыехалі са сваімі спектаклямі. У маі 1989 г. будуць у нас выступаць акцёры Драматычнага тэатра. Супрацоўніцтва прадбачвае таксама паездкі нашых рэжысёраў і акцёраў у Гдыню (і наадварот), каб прыглядзецца напрамкам і формам працы абодвух тэатраў. Ёсць намер супольнага спектакля.

**Н.:** — Мы выйшлі з тэатра, ачараваныя вашай цудоўнай ігрой, а перш за ўсё наватарскім прадстаўленнем класікі, дзе спалучаецца фабула „Рэвізора“ і „Мёртвых душ“ з музыкай, танцам і эфектнай дэкарацыяй. Што вас інспіруе да такой акцёрскай інтэрпрэтацыі?

**А.Б.:** — Хочацца ўсхваляваць публіку. Калі хаця адзін чалавек задумаецца — гэта вельмі добра.

**Уладзімір Грыцэўскі:** — Мы ў спектаклі не ставілі такой задачы, каб каго-небудзь размалёўваць, бічаваць, асуджаць. Мы стараліся паказаць натуру чалавека ў разнастайных сітуацыях: камічных, трагічных, поўных турбот, бясформенных у сваёй акасцянеласці. Мы рабілі спектакль з верай у чалавека, з надзеяй на магчымасць пераадолець ляноту, брак веры, апатыю. Мы думалі, каб зрабіць спектакль, згодны з гогалеўскім духам веры ў свае сілы.

**Н.:** — Усе здарэнні, прадстаўленыя вамі, вядомыя — знаёмая інтрыга, і тэма вельмі актуальная. Усё гэта захапляе таму, што ўпісана ў своеасаблівую тэатральную візію, выказаную ўласнай сцэнічнай мовай. Вы паказваеце рознага паходжання індывідуумы, якія дасканала апанавалі ўмеласць прашмыргвання праз жыццё. У спектаклі відаць і драпежная ўсеядавітасць і проста прывідны цынізм. Аднак гэтае сумнае і песімістычнае настаўленне не прыгнятае гледача, таму што гэты вобраз насычаны ад пачатку да канца незаплямленай верай у чалавека.

**А.Б.:** — У нас рэпертуар розны. Стараемся няспынна пабольшваць лік сцэнічных твораў. Магчымасці для гэтага ёсць. У нас для кожнага акцёра і рэжысёра адкрытыя дзверы: хочаш — прыходзь і стаў спектакль. Вось „Фантазія на тэмы Гогаля“ — наш рэжысёрскі дэбют. Кожны дзень працы над спектаклем быў нейкім адкрыццём.

**У.Г.:** — Мы ўзяліся за гэты спектакль 15 гадоў пасля заканчэння Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве. Гэты спектакль быў нашым дыпломным. Але цяперашні зусім іншы: новыя акцёры, новы сцэнарый. Толькі мы з Сашкам — старыя.

**Н.:** — Якая гісторыя вашага тэатра?

**У.Г.:** — Тэатр-студыя кінаакцёра пачаў існаваць у 1980 годзе.

**А.Б.:** — Калі мы вярнуліся з Масквы ў Мінск, нас ангажавалі ў „Беларусьфільм“. Хаця мы былі маладымі акцёрамі і многа хацелі зрабіць, прайшлі цяжкія спробы. Сем гадоў мы працавалі толькі на плане фільма.

**У.Г.:** — Вернемся да 1980 года. Тады наш тэатр паставіў спектакль „Паляванне на качак“ (рэжысёр В.Д. Енісенка). Мы ігралі яго 2 разы. Потым разышліся. Праз год мы ізноў сабраліся і разам з рэжысёрам Гаўрыловічам паставілі „Усё яго жыццё“. Калі ў наш тэатр прыйшоў з Рускага тэатра рэжысёр Барыс Луцэнка, мы сталі рэгулярна ставіць спектаклі і існаваць як „тэатр пры кінастудыі „Беларусьфільм“.

**Н.:** — Якія ў вас цяпер творчыя планы?

**А.Б.:** — Мы цяпер у пошуках новых цікавых твораў. Рыхтуецца ў нас прэм'ера спектакля „Трыё“. Гэта расказ пра артыстаў-музыкантаў, пра ўнутраную барацьбу чалавека, нараджэнне мастацтва і пра тое, як памірае чалавек, не дабіўшыся нічога. Гэта песімістычны вобраз.

Мы з Вовам прывезлі з сабой сцэнарый твора Камкова „Слон“, каб у свабодны час папрацаваць над ім. Залаты слон, знойдзены селянінам, стаўся дылемай простага чалавека: „Што зрабіць?“

**Н.:** — Вы прыгожа гаворыце на роднай мове. А ці ставіце спектаклі па-беларуску?

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Вучні чацвёртага класа са школы ў Дубінах са сваёй настаўніцай Нінай Койла.*

*Фота Я. Чэрнякевіч*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Мікола Маляўка

### КОТ-КАЗАЧНІК

Казкі любіць Юля,
Просіць шчыра так:
— Раскажы, дзядуля,
Казку пра ката.

— Кот Максім і сам
Бáе казкі слаўна, —
Кажа дзед Адам,
Седзячы на лаве. —
Просьбаю, як ласкай,
Дагадзі кату.
Ну, а я тым часам
Кораб дапляту.

Праўда, не ўцякае,
Бае кот Максім,
Ды ў ягонай казцы
Слоў няма зусім.

Страціўшы надзею,
Юля дзеда кліча.
— Я не разумею,
Што ён мне мурлыча.

Дзед бліжэй сядае,
Спагадае дзед
І перакладае
За катом ўслед.

— У мяне, ката Максіма,
Толькі торба за плячыма.
А была сям'я, сябры,
Замак на крутой гары.
Мы зямлі абшары мелі,
Не было за нас дужэй.
Тысяч пяць, відаць,
Не меней,
Нам прыслужвала мышэй.

І аралі мышы ў полі.
І касілі.
І малолі.
І пяклі духмяны хлеб.
І па бульбу лезлі ў склеп.
І даілі коз здаўна.
І смалілі кабана.
І цягнулі рыбу з лодкі...
Мышы дбалі пра харчы:
Дзень, бывала,
 быў кароткі,
Дык не спалі і ўначы.

Ад прысмакаў —
Булак з макам,
Паляндвіцы,
Юшкі,
Ракаў —
Аж ламаўся ў будні стол.
Мышы тупалі вакол,
Падавалі без падказкі
І катлеты, і каўбаскі.
А самім за клопат гэткі
Даставаліся аб'едкі.

Я, аднак,
Не быў лайдак:
Стрэльбу меў, каня, сабак
І ў сядле пасля снядання
Гарцаваў на паляванне.

Вось аднойчы бацька кажа:
„Прыязджае цётка наша,
А дзічына выйшла ўся —
Асачы, Максім, лася."

Я насціг лася ў балотцы.
Бачу сам — дамоў пара.
І за год не з'есці цётцы:
Мяса — цэлая гара!

А вярнуўся з палявання —
Замак спалены дазвання,
І загінулі каты —
Бацька,
Маці,
Тры браты.
Не расплыўся дым густы.
А мышэй і след прастыў.

Знала, я пайду па пятах,
Знала, стрэльба за плячыма,
І разбегліся па хатах
Ад мяне, ката Максіма.

Я ў дарогу зноў сабраўся,
Я над попелам пакляўся:
„Спаць не буду цэлы год,
А звяду мышыны род!"

Вось чаму адзін я, сумны,
Абыходжу хаты, гумны
І лаўлю мышэй бясплатна —
Дзякуй скажуць, то і ладна.
Не адно сяло аблётаў.
Бачыш, я сяджу без ботаў
І знасілася кашуля —
Шмат было турботаў, Юля.
Я і ў вас цяпер не госць:
Дзед казаў, што мышы ёсць...

Кораб невялікі
Дзед аплёў якраз.
Засталося лыка —
Пук, як на заказ.
Дзед бярэ астачу.
— Так і быць, кату
За дабро аддзячу —
Лапцікі спляту.

Плешча ў ладкі Юлька,
Кажа:
— Дзед Адам,
Я сваю кашульку
Коціку аддам!

Дзед Адам смяецца,
Задаволен дзед:
Казку ён, здаецца,
Пераклаў, як след.
— Ляж, унучка,
Просіць, —
Ды паспі даўжэй —
Казачніку босаму
Час лавіць мышэй.

І. Вастракоў

### ВЯРОЎКА

Вася выйшаў на двор прагуляцца. У змроку ля пажарнай лесвіцы ён убачыў тонкую безіменную вяроўку, якая звісала з даху. Гадзіну назад ніякай вяроўкі тут не было, гэта Вася ведаў напэўна. Ён злёгку пацягнуў за вяроўку і крыкнуў:

— Гэй!

— Гэй! — адгукнулася рэха. Васю спадабалася, што рэха так добра і хутка адгукаецца.

— Ого-гой! — зноў крыкнуў Вася.

— Ой! Ой! — адгукнулася рэха.

— Гэта чыя вяроўка?

— Мая, — сказала рэха сумна.

Здзіўлены Вася трошкі памаўчаў і спытаў:

— Гэй, а ты хто?

— Андрэйка.

— Што ты там робіш?

— Нічога.

— Дык чаго ж ты на дах залез?

— Пахваліўся, што на дах залезу і малатком па ім пастукаю...

— Эх ты! Ну і як? Пастукаў?

— Пастукаў.

— А вяроўка навошта?

— Малаток на дах зацягнуць.

— І ўсё?

— Усё.

— Дык злазь!

— Не злезу.

— Чаму?

— Страшна!

Чуваць было, як Андрэйка заплакаў.

— Перастань плакаць, — рашуча прыкрыкнуў Васіль. — Вяроўка ў цябе прывязаная?

— Не-е!

— Дык прывяжы!

Вяроўка ўздрыганулася, трошкі нацягнулася і павісла.

— Прывязаў?

— Так.

— Моцна?

— Марскім вузлом.

— Малайчына, — пахваліў Вася, таксама прывязваючы вяроўку да свайго пояса.

Схапіўшыся за стальны дрот лесвіцы, Вася ўпэўнена палез уверх. Дабраўся да Андрэйкі, пахлопаў яго па плячы: не бойся, маўляў, — і яны пачалі спускацца.

— Не было б вяроўкі, — гаварыў Васіль, — я цябе б і не ратаваў. Пабаяўся б. Трэба было б клікаць міліцыю, бацькоў бы напалохалі, а як ёсць вяроўка, дык усё ў парадку. Зусім не страшна. Самая добрая справа, калі ёсць вяроўка, якая забяспечвае!

Саскочыўшы на зямлю, Васіль злёгку шарпнуў вяроўку і спытаў?

— А да чаго яна ў цябе прывязана?

— Да малатка... — сказаў Андрэйка.





## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) ім вымяраецца шум і грукат, 7) абвясціла вялікі Кастрычнік, або піша ў „Ніве“, 8) горад у СССР, каля якога адбылася адна з найбольшых бітваў II сусветнай вайны, 9) дакучае летам хатняй жывёле, 10) запоўнены дакументамі, 12) заробак паэта або журналіста, 15) калі яна ёсць, можна зляпіць балвана, 17) шпітальнае аддзяленне, дзе многа крыку, 19) курорт у Крыме, 21) у сярэдзіне свечкі, 22) ходзіць у сне.

**Уніз:** 1) артыстычнае чытанне, 2) горад у Швейцарыі, 3) вядомы ва ўсім свеце беларускі пісьменнік, 4) прылада да перасыпвання, 5) цяжар, вага, 6) галінка ягад або кветак, 11) жыве на чужыне, перасяленец, 12) спартыўная камандная ігра, 13) гадзіннік іх не мае, а ходзіць, 14) першы паэтычны зборнік „белавежцаў“ або ўсходы, пасевы азімых культур, 16) кніжка Максіма Багдановіча, якая выйшла пры яго жыцці, 18) сваячка „фіата“, 20) расліна на валакно.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 8.

Упоперак: 1) драмадэр, 7) Квас, 9) Бубка, 10) загана, 11) Конга, 12) дзяркач, 15) артыст, 18) гук, 19) афарызм, 23) вазак, 26) шыла, 27) комін, 28) бот.

Уніз: 1) даклад, 2) маса, 3) долата, 4) рыбак, 5) албанцы, 6) трава, 8) азіятка, 13) капа, 14) чары, 16) тэма, 17) сіла, 18) груша, 20) фрак, 21) рытм, 22) звон, 24) зуб, 25) кіт.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Міхал Мартыновіч з Чарноўчыц (Брэсцкая вобласць) і Яўген Вапа з Варшавы.






## АФАРЫЗМЫ

Не страшны воўк, што з лесу глядзіць,
Страшны той, што ў чалавеку сядзіць.

— ✻ —

Хлуснёй засееш жыццёвы загон,
Горкі збярэш плён.

— ✻ —

Хто толькі ў чужых памылках капаецца,
Той сам на сабе пазнаецца.

— ✻ —

Фальшывая мера да трох разоў мерыць,
Потым ніхто ўжо ёй не верыць.

— ✻ —

Калі тоіш свае грахі,
Не давядзецца святой страхі.

— ✻ —

Каханне жыццё ўзвышае,
Але і горыч у ім бывае.

— ✻ —

Калі правадыры не дойдуць да згоды,
Прапалі іх народы.

**Язэп Карпюк**

### У СВЕЦЕ ЦІКАВЫХ ДУМАК

Ажаніся — заўсёды варта! Або пападзеш на добрую жонку, або станеш філосафам.

**Сакрат, старажытны філосаф**

— ✻ —

Любоў — адзіны фактар, апраўдваючы шлюб. З'яўляецца яго ісцінай, і без яе нельга гаварыць аб сапраўдным шлюбе.

**Д. Ліндсей, англійскі пісьменнік**

## ДЗВЕ СЯБРОЎКІ

**(Байка)**

Прырода людзям не даруе,
Што зайздрасць з тупасцю
сябруе,
Тупасць возьме, тупасць дасць,
Зайздрасць — купіць і прадасць.
Зайздрасць — велічная сіла,
Тупасць — таленту магіла:
Пры такой яны ўмове.
На адной сышліся мове.
Зайздрасць таленты ўбівае,
Тупасць ёй дапамагае,
Атрымаўшы перамогу,
Адпраўляюцца ў дарогу.
Тупасць молатае меле,
Зайздрасць лістам табе сцеле,
Дым пускаючы у вочы,
Жывым з'есці цябе хоча.
Пакуль тупасці што дойдзе,
Зайздрасць талент новы знойдзе,
Прыласкае, прыгалубіць,
Прыціскаючы — загубіць.
У змаганні к перамозе,
Барацьбіт заўсёды прыйдзе,
Як зярнятка пры дарозе,
Хоць пазней, але узыйдзе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зайздрасць з тупасцю спрадвеку
Зло чынілі чалавеку...

**Аляксандра Елісеенка**

## ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ, ЯК МЕСЯЦ УЗЫЙШОЎ




**(Народная)**

*— Чаму не прыйшоў, як месяц*
*ўзыйшоў,*
*Як цябе чакала?*
*Ці каня не меў, ці сцежкі не знаў,*
*Ці маць не пускала?* *

*— Я коніка маў і сцежачку знаў,*
*І маці пускала.*
*Ды меньша сястра, дай бог не ўзрасла,*
*Сядзельца схавала.*

*Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,*
*Скочу-пераскочу,*
*Аддай, мамачка, аддай родная,*
*За каго я хочу.*

*Маці аддала, ды наказ дала:*
*„У гасцях не бываці,*
*А як жа табе горачка будзе,*
*Не прыходзь дахаты“.*

*Цярпела я год, цярпела другі,*
*Трэці не сцярпела.*
*Ператварылась шэрай зязюляй,*
*Дадому зляцела.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.



— Прабачце, вы хочаце жаніцца ці ўдачарыць мяне?

✻

— На жаль, усе нумары заняты, — гаворыць у прыёмнай гасцініцы. — Свабодны толькі пакой для маладажонаў.

— А чым ён адрозніваецца?

— У ім сапсаваны тэлевізар.

✻

Сцюардэса супакойвае пасажыраў:

— Здарылася невялікая аварыя левага матора. Прашу не хвалявацца. Самалёт рыхтаваў для палёту мой муж, інжынер-механік.

Адзін з пасажыраў трывожным голасам спытаўся:

— Прабачце, а як складаецца вашае сужыццё?




Не маю нічога супраць, каб жанчыны мяне нервавалі, але не ўвесь час адна.